14. Для арыентацыі ў прасторы і палявання кажаны **выкарыстоўваюць эхалакацыю:** выпускаючы сэрыі ультрагукаў на частотах 20-120 kHz, яны, успрымаючы адбітыя сігналы, распазнаюць прадметы велічынёй 0,1 – 10 мм. Гэта дазваляе ім лётаць у цемры і “бачыць” насякомых.
15. З прычыны сваёй уражальнасці да змен навакольнага асяроддзя, кажаны з'яўляюцца выдатнымі індыкатарамі яго захавання ці разбурэння.
16. Кажаны – найбольш уразлівая група млекакормячых. **Кожны трэці від нашай фаўны занесены ў Чырвоную кнігу** Беларусі; усе еўрапейскія віды кажаноў знаходзяцца ў Чырвоным спісе Міжнароднага Саюза Аховы Прыроды (IUCN), а таксама абароненыя Бонскай і Бернскай канвенцыямі, прынятымі ў тым ліку і Рэспублікай Беларусь.



Мы спадзяемся,што гэтыя матэр'ялы зацікавілі Вас і крыху дапамогуць Вам адкрыць для сябе таямнічы і загадкавы свет нашых начных сяброў. Памятайце, што кажаны – гэта неад'емная, карысная і безабаронная частка нашага Сусвету. Толькі разам прыклаўшы свае намаганні мы здолеем захаваць і перадаць нашу агульную прыродную спадчыну сваім нашчадкам. Яна таго вартая!

Тэкст Аляксей Шпак. Фота Сяргей Анэрэеў,
Андрэй Шымкевіч, Ягор Яцюк



**Калі Вам патрэбна дапамога ці проста Вы зацікавіліся кажанамі, калі ласка звяртайцеся па гэтых кантактах:**

**Аляксей Шпак** ДНВА “НПЦ НАН Беларусі па біярэсурсах”
e-mail: dverg@mail.ru
www.vk.com/kazhany_by
www.facebook.com/Kazhany.by
Тэлефон: +375 29 213 92 57

**Грамадская арганізацыя “Ахова птушак Бацькаўшчыны”**
(8017) 263-06-13
(8029) 223-06-13
(8029) 101-68-87
info@ptushki.org
www.fb.com/APB.BirdLife.Belarus
www.vk.com/ptushki
www.twitter.com/ptushki
220114, г.Мінск, вул. Парніковая. д.11, пам. 4
www.ptushki.org



Грамадская арганізацыя
"Ахова птушак Бацькаўшчыны"
www.ptushki.org

# Цікавыя факты пра кажаноў





SECTOR
REGIONAL ENVIRONMENTAL CENTER
SWEDEN

Напэўна кожны з нас, хаця б аднойчы, сустракаўся з такімі тямнічымі і загадкавымі істотамі, як кажаны. Нягледзячы на тое, што гэтыя звяркі шмат стагоддзяў жывуць побач з чалавекам, яны акутаныя безліччу міфаў, легенд і паданняў, якія часта ствараюць негатыўныя адносіны паміж людзьмі і кажанамі. Мы спадзяемся, што гэты буклет адкажа на самыя значныя і частыя пытанні, а таксама зменіць ваша стаўленне да гэтых прыгожых і карысных жывёл.

1. Кажаны – адзіныя млекакормячыя, здольныя да актыўнага і працяглага палёта. Як і другія млекакормячыя, яны выкормліваюць сваіх дзіцянят малаком.
2. Насуперак таму, што ў Еўропе кажаны – атрыбут нячыстай сілы, **у Кітаі яны з'яўляюцца сімвалам шчасця і поспеху**. Нават словы "кажан" і "удача" гучаць аднолькава.
3. Кажаны – неверагодна разнастайныя жывёлы. Па колькасці відаў (больш за 1000 ці 25% усіх відаў млекакормячых) яны саступаюць толькі грызунам. На тэрыторыі Беларусі ў цяперашні момант адзначана **19 відаў кажаноў**, то бок каля 20% ад усіх відаў беларускіх млекакормячых.
4. Усе кажаны беларускай фаўны **харчуюцца выключна насякомымі.**
5. За суткі адзін кажан з'ядае насякомых агульнай масай да 40-50% масы ўласнага цела. Да таго ж – каля 70% іх рацыёну складаюць насякомыя-шкоднікі сельскай і лясной гаспадаркі.
6. Некаторыя віды кажаноў, як і некаторыя птушкі, восенню адлятаюць на поўдзень на адлегласці да 2000 км.
7. Пладавітасць кажаноў дужа нізкая – цягам года адна самка нараджае 1-2 дзіцянят.
8. **Працягласць жыцця** кажаноў фенаменальна высокая для жывёлаў такіх невялікіх памераў. У сярэднім яна складае **10-15 гадоў,** але некаторыя жывёлы дажываць да 40 гадоў.
9. Падчас дзённага адпачынку кажаны ўваходзяць у стан глыбокага сна, паніжаючы тэмпературу цела да тэмпературы навакольнага асяроддзя і, адпаведна, запавольваючы свой абмен рэчываў. Гэта дазваляе ім эканоміць энэргію.





10. Спарваюцца кажаны звычайна з канца лета да сярэдзіны восені, але цяжарнасць наступае толькі вясной.
11. Падчас перыяда размнажэння самкі ствараюць выключна жаночыя, ці вывадковыя калоніі, колькасцю ад некалькіх дзесяткаў да некалькіх соцень жывёл.
12. Цікавай асаблівасцю кажаноў з'яўляецца іх здольнасць да зімоўкі. З прыходам халадоў некаторыя віды кажаноў перасяляюцца ў зімавальныя сховішчы, дзе могуць ствараць скапленні да некалькіх соцень жывёл. Найбольш вядомыя зімавальныя сховішчы на тэрыторыі Беларусі – фарты Брэсцкай крэпасці, дзе выяўлены буйныя зімнія калоніі еўрапейскага шыракавуха і іншых аселых відаў кажаноў.
13. Падчас зімоўкі кажаны **ўпадаюць у спячку,** якая адзначаецца запавольваннем метабалічных працэсаў. Вельмі непажадана турбаваць кажаноў падчас спячкі, таму што на абуджэнне і разаграванне звяркі выдаткуюць шмат энергіі і, у выніку, пры паўторным упадзенні ў спячку, могуць не дажыць да вясны.